Vol. VII of X

# V FOR VENDETTA™

By Alan Moore and David Lloyd




JAN 89
$2.00 US
$2.50 CAN

Suggested For Mature Readers

BY COMICS

V ЗНАЧЫЦЬ ВЕНДЭТА #7 (1988)
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ
АЛЕНЫ ВАСІЛЬКОВАЙ

# V FOR VENDETTA™

By **Alan Moore** and **David Lloyd**

Color artists:
**Steve Whitaker**
**Siobhan Dodds**
**David Lloyd**

Lettering:
**Jenny O'Connor**
**Steve Craddock**

**V FOR VENDETTA 7**
Published monthly by DC Comics Inc.,
666 Fifth Avenue, New York, N.Y. 10103.

Printed in Canada.

V FOR VENDETTA, Book 2,
Chapters 12, 13, 14, Vertigo
& Vincent first published 1983
in the United Kingdom by
Quality Communications Limited.
DC Comics Inc.
A Warner Communications Company.


Я, ІВІ ХАМАНД...
ПЯТАГА ЛІСТАПАДА 1997 ГОДУ БЫЛА ВЫКРАДЗЕНА ТЭРАРЫСТАМ, ГЭТАК ЗВАНЫМ V. СУПРАЦЬ МАЙГО ЖАДАННЯ ЁН МЯНЕ ПРЫВЁЗ У НЕЗНАЁМАЕ МЕСЦА.


ТАМ ЁН СІСТЭМАТЫЧНА КАТАВАЎ МЯНЕ З ДАПАМОГАЙ НАРКОТЫКАЎ, ЗДЗЕКВАЎСЯ ПСІХАЛАГІЧНА І ФІЗІЧНА.
У ГЭТЫ ПЕРЫЯД ЁН ТАКСАМА ПАДВЯРГАЎ МЯНЕ СЭКСУАЛЬНАМУ ГВАЛТУ.


УРЭШЦЕ ЁН ВЫМУСІЎ МЯНЕ ДАПАМАГЧЫ Ў ЗДЗЯЙСНЕННІ ЗАБОЙСТВАЎ.
НАМІ БЫЛІ ЗАБІТЫ РОДЖЭР ДАСКОМБ, ДЭРЭК ОЛМАНД, ДЭЛІЯ САРЫДЖ І ЯГО СВЕТЛАСЦЬ ЭНТОНІ ЛІЛЕМАН, БІСКУП ВЭСТМІНСТЭРСКІ.


Я ТАКСАМА СПРАБАВАЛА ЗАБІЦЬ ПІТЭРА КРЫДЗІ.
Я КЛЯНУСЯ, ШТО МАЯ ЗАЯВА ПРАЎДЗІВА І ШТО ЯНА ПАДПІСАНА БЕЗ ПРЫМУСУ.
КАЛІ ЛАСКА, ПАДПІШЫЦЕ ЗАЯВУ, МІС ХАМАНД.
ВОСЬ ТАМ, ДЗЕ КРЫЖЫК...




НЕ.


ЯК ЖАДАЕЦЕ.
АДВЯДЗІЦЕ МІС ХАМАНД У КАМЕРУ, РОСІТЭР. НЯХАЙ ЯНА ТАМ ПАЧАКАЕ, СЁННЯ НАМ ТРЭБА ПРЫМУСІЦЬ ШАСЦЁРА.


ПОТЫМ ЗАВЯДЗІЦЕ ЯЕ ЗА ХІМБЛОК І ЗАБЕЙЦЕ.
ГЛАВА 12
VЕРДЫКТ




ПАРА...

КАЛІ ВЫ НЕ ПЕРАДУМАЛІ...
ПАДПІШЫЦЕ СВЕДЧАННІ. ВЫЙДЗЕЦЕ ГОДА ПРАЗ ТРЫ. АТРЫМАЕЦЕ ПРАЦУ Ў ПАЛЬЦЫ.
У ПАЛЬЦЫ ПРАЦУЕ ШМАТ ТАКІХ ЯК ВЫ.

ДЗЯКУЙ.
АЛЕ Я ЛЕПЕЙ ПАМРУ ЗА ХІМБЛОКАМ.

ЗДАЕЦЦА, ВАМ НЯМА ЧАГО ГУБЛЯЦЬ.
ВЫ ВОЛЬНЫЯ.

ШТО?





ЯК ЖАДАЕЦЕ.
АДВЯДЗІЦЕ МІС ХАМАНД У КАМЕРУ, РОСІТЭР. НЯХАЙ ЯНА ТАМ ПАЧАКАЕ, НАМ ТРЭБА ЯШЧЭ ПРЫМУСІЦЬ ШАСЦЁРА.

ПОТЫМ ЗАВЯДЗІЦЕ ЯЕ ЗА ХІМБЛОК І ЗАБЕЙЦЕ.







ПРЫВІТАННЕ. ВОСЬ ТЫ І ДОМА.




ТЫ.


ГЭТА ЗРАБІЎ ТЫ.


ГЭТА СА МНОЙ ЗРАБІЎ ТЫ.
СА МНОЙ.


ТЫ ЗРАБІЎ ГЭТА СА МНОЙ.
ТЫ... ТЫ...
БОЖА... БОЖА...


Т-ТЫ БІЎ МЯНЕ, АДРЭЗАЎ ВАЛАСЫ.
УВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС ГЭТА БЫЎ ТЫ.


ТЫ КАТАВАЎ МЯНЕ...
ТЫ Ж КАТАВАЎ МЯНЕ...
БОЖУХНА, НАВОШТА?


ТАМУ ШТО Я КАХАЮ ЦЯБЕ.
ТАМУ ШТО Я ЖАДАЎ, КАБ ТЫ БЫЛА ВОЛЬНАЯ ЗНОЎ.
ГЛАВА 13
VЯРТАННЕ


КАБ?...


ВОЛЬНАЯ?
ТЫ ШТО, НЕ РАЗУМЕЕШ?


НЕ РАЗУМЕЕШ, ШТО ТЫ ЗРАБІЎ СА МНОЙ?
Я АМАЛЬ НЕ ЗВАР'ЯЦЕ-ЛА, V!


ІНАКШ НЕ БЫВАЕ, ІВІ.


Я ЦЯБЕ НЕНАВІДЖУ!!!
ТЫ ТОЛЬКІ І МОЖАШ ВЯРЗЦІ АБЫ-ШТО, ЛІЧЫШ СЯБЕ РАЗУМНІКАМ, А САМ КАЖАШ БЯССЭНСІЦУ!
ТОЕ, ШТО ТЫ КАЖАШ, НІЧОГА НЕ ЗНАЧЫЦЬ!


ТЫ КАЖАШ, ШТО КАХАЕШ МЯНЕ, А САМ НЕ КАХАЕШ, БО ТРЫМАЎ У СТРАХУ, МУЧЫЎ ДЗЕЛЯ ПАЦЕХІ...
КАЖАШ, ШТО ВЫЗВАЛІЎ МЯНЕ, А НАСАМРЭЧ ПАСАДЗІЎ У ТУРМУ.


ТЫ БЫЛА Ў ТУРМЕ.
ТЫ БЫЛА Ў ТУРМЕ ЎСЁ СВАЁ ЖЫЦЦЁ.


ЗАМАЎЧЫ! НЕ ЖАДАЮ СЛУХАЦЬ! НЕ БЫЛА Я Ў ТУРМЕ! Я БЫЛА ШЧАСЛІВАЯ!
Я Б-БЫЛА ШЧАСЛІВАЯ ТУТ... ПАКУЛЬ ТЫ НЕ ВЫШТУРХНУЎ МЯНЕ.

ШЧАСЦЕ – ГЭТА ТУРМА, ІВІ...

САМАЯ КРЫВАДУШНАЯ ТУРМА.

ГЛУПСТВА! ГЛУПСТВА! ЗЛАСЛІВАЯ ХЛУСНЯ!

КАЛІ ТЫ ВЫШТУРХНУЎ МЯНЕ, Я ЖЫЛА... З АДНІМ ЧАЛАВЕКАМ.

Я...Я КАХАЛА ЯГО. Я БЫЛА ШЧАЛІВАЯ.

КАЛІ ГЭТА ТУРМА, МНЕ АБЫЯКАВА.

САПРАЎДЫ?

ТВОЙ КАХАНЫ ЖЫЎ У ТУРМЕ, ДЗЕ МЫ ЎСЕ НАРАДЖАЕМСЯ, І БЫЎ ВЫМУШАНЫ ЗБІРАЦЬ СМЕЦЦЕ, КАБ ЗАРАБІЦЬ НА ХЛЕБ.

ЁН ВЕДАЎ КАХАННЕ, ХОЦЬ І НЯДОЎГА.

У ВЫНІКУ ЯНЫ ЯГО ЗАБІЛІ, І ЁН ЗАХЛЫНУЎСЯ ЎЛАСНАЙ КРЫВЁЮ.

ГЭТА ЯНО, ІВІ?

ГЭТА ШЧАСЦЕ, ЯКОЕ КАШТУЕ БОЛЬШ ВОЛІ?

АДКУЛЬ ТЫ ВЕДАЕШ?

АДКУЛЬ ТЫ ВЕДАЕШ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З ГОРДАНАМ?

ЗВЫЧАЙНАЯ ГІСТОРЫЯ, ІВІ. ШМАТЛІКІЯ ВЯЗНІ КАНЧАЮЦЬ ДРЭННА...

ТВАЯ МАЦІ. ТВОЙ БАЦЬКА. ТВОЙ КАХАНЫ.

ІХ ПА АДНАМУ ЗАВОДЗЯЦЬ ЗА ХІМБЛОК.


І ЗАБІВАЮЦЬ.


УСЕ ВЯЗНІ СКУРЧЫЛІСЯ Ў МАЛЕНЬКІХ КАМЕРАХ, САГНУЛІСЯ ПАД ЦЯЖАРАМ ЛАНЦУГОЎ, ПАКУТУЮЦЬ АД НЕСПРАВЯДЛІВАГА ПРЫСУДУ...
Я НЕ САДЖАЎ ЦЯБЕ Ў ТУРМУ, ІВІ.
Я ЗРАБІЎ ТАК, КАБ ТЫ ПАБАЧЫЛА РАШОТКУ.


НЯПРАЎДА! ГЭТА ПРОСТА ЖЫЦЦЁ! ГЭТА ЖЫЦЦЁ ТАКОЕ, З ІМ НІЧОГА НЕ ЗРОБІШ!
ГЭТА ЎСЁ, ШТО Ў НАС ЁСЦЬ. ХТО ДАЎ ТАБЕ ПРАВА КАЗАЦЬ, ШТО ГЭТА ДРЭННА?


ТЫ Ў ТУРМЕ, ІВІ. ТЫ НАРАДЗІЛАСЯ Ў ТУРМЕ. ТЫ Ў ТУРМЕ ЗНАХОДЗІШСЯ ТАК ДОЎГА, ШТО НАВАТ НЕ ВЕРЫШ У ІСНАВАННЕ ІНШАГА МІРУ ЗА ЯЕ СЦЕНАМІ.
ЗАМАЎЧЫ! ТЫ ЗВАР'ЯЦЕЎ! НЕ ЖАДАЮ СЛУХАЦЬ!


ТАМУ ШТО ТЫ БАІШСЯ, ІВІ. БАІШСЯ ТАМУ, ШТО АДЧУВАЕШ НАБЛІЖЭННЕ ВОЛІ. БАІШСЯ, БО ВОЛЯ ПАЛОХАЕ...
НІЧОГА Я НЕ АДЧУВАЮ! НЯМА ЧАГО АДЧУВАЦЬ! АДЧАПІСЯ АД МЯНЕ!!!
НЕ АДЫХОДЗЬ, ІВІ. ЧАСТКА ЦЯБЕ ЎЖО БАЧЫЦЬ ПРАЎДУ, А ІНШАЯ ЖАДАЕ ЗАСТАЦЦА СЛЯПОЙ.


ТЫ ЖАНЧЫНА, І ГЭТА НАЙВАЖНЕЙШЫ МОМАНТ У ТВАІМ ЖЫЦЦІ.
НЕ ХАВАЙСЯ АД ЯГО.


Я НЕ ВЕДАЮ... ШТО... ТЫ...
БОЖА. БОЖА... Я НЕ МАГУ...ДЫХАЦЬ...
АСТМА... КАЛІ Я БЫЛА МАЛЕНЬКАЙ ДЗЯЎЧЫНКАЙ...


ДОБРА. ТЫ АМАЛЬ ТУТ. ПАДЫДЗІ БЛІЖЭЙ. АДЧУЙ ЯЕ.
ТВАЯ МАЦІ ПАМЕРЛА. ТВАЙГО БАЦЬКУ ЗАБРАЛІ. ЗАСТАЛАСЯ ТОЛЬКІ МАЛЕНЬКАЯ ДЗЯЎЧЫНКА ІВІ.
ЫЫЫХ...
ЫЫЫХ...,
ДАПАМАЖЫ МНЕ...


МАМА! ТАТА! ХОПІЦЬ!!!


ШТО...ТЫ РОБІШ? Я НЕ... МАГУ ДЫХАЦЬ... ЫЫЫХ...
ТЫ БЫЛА Ў КАМЕРЫ, ІВІ. ТАБЕ ПРАПАНАВАЛІ ВЫБАР-ЗАБІЦЬ ЦЕЛА ЦІ ЗАБІЦЬ ПРЫНЦЫПЫ.


ОХ, Я АДЧУВАЮ... ШТО ГЭТА? Я ПАМРУ... ПАДАРВУСЯ...
ТЫ КАЗАЛА, ШТО ЛЕПЕЙ ПАМЕРЦІ. ТАБЕ ПАГРАЖАЛІ СМЕРЦЮ. ТЫ НІЯК НЕ АДРЭАГАВАЛА.
ПАСПРАБУЙ АДЧУЦЬ ТОЕ, ШТО АДЧУЛА ТАДЫ.


Я... ООООХХ...
Я АДЧУВАЛА...
Я...


ЯК БЫЦЦАМ БЫ Я АНЁЛ...


БОЖА, БОЖА, МНЕ ТАК ХАЛОДНА! МНЕ ЖУДАСНА!
ШТО СА МНОЙ АДБЫВАЕЦЦА?


ДЗВЕРЫ КАМЕРЫ АДЧЫНЕНЫ, ІВІ.
ПРОСТА АДТУЛЬ ДУЕ. НЕ ХВАЛЮЙСЯ.


ПАСПРАБУЙ УСТАЦЬ. ПАСПРАБУЙ ІСЦІ.
ЛІФТ АДВЯЗЕ НАС НА ДАХ.
НА ДАХ? НА ВУЛІЦУ?


Я НЕ ЖАДАЮ, КАБ МНЕ ЗНОЎ ЗАВЯЗВАЛІ ВОЧЫ.
НЕ, ІВІ. БОЛЕЙ НІЯКІХ ПАВЯЗАК.


ПАВЯЗКІ БОЛЕЙ НЕ ПАТРЭБНЫ.


ОХ, ДОЖДЖ. ХАЛОДНА, НАПЭЎНА.
АДЧУВАЕШ?

НЕ.



V...

УСЁ... ЗМЯНІЛАСЯ...
Я АДЧУВАЮ...

Я ВЕДАЮ.
ПЯЦЬ ГАДОЎ ТАМУ Я ТАКСАМА ПРАЙШОЎ ПРАЗ ГЭТУ НОЧ. ГОЛЫ, ПАД РАВУЧЫМІ НЯБЁСАМІ.
ГЭТАЯ НОЧ – ТВАЯ.

БЯРЫ ЯЕ.
АБДЫМІ ЯЕ. УСАДЗІ САБЕ ЯЕ ПА САМУЮ РУЧКУ.

ЗМЯНІСЯ...
ЗМЯНІСЯ...

НАЗАЎСЁДЫ.


























# ГЛАВА 14

## ВІНЬЕТКІ


V?



ДЗЯКУЙ ТАБЕ.
ДЗЯКУЙ ТАБЕ ЗА ЎСЁ, ШТО ТЫ ДЛЯ МЯНЕ ЗРАБІЎ.

ТЫ ЎСЁ ЗРАБІЛА САМА.
Я ТОЛЬКІ ПАБУДАВАЎ ДЭКАРАЦЫІ, А П'ЕСА БЫЛА ТВАЯ.

ВЫДАТНЫЯ ДЭКАРАЦЫІ.
Я САПРАЎДЫ ПАВЕРЫЛА, ШТО СЯДЖУ Ў ТУРМЕ.
І МНЕ СКЛАДАНА ЗМІРЫЦЦА З ТЫМ, ШТО ТАМ НЕ БЫЛО НІКОГА, АКРАМЯ НАС. НІ НАЗІРАЛЬНІКА, НІ СЛЕДЧАГА.

... НІ ВАЛЕРЫ.

ДЗІЎНА... Я РАЗУМЕЮ, ШТО ЛІСТ НАПІСАЎ ТЫ. І ЯЕ ГІСТОРЫЮ ТАКСАМА ТЫ ПРЫДУМАЎ. АЛЕ ЎСЁ ВЕЛЬМІ ПЕРАКАНАЎЧА.
Я Ў ЯЕ ПАВЕРЫЛА. Я НАВАТ ПАЛЮБІЛА ЯЕ. А Я ЯЕ НАВАТ НЕ БАЧЫЛА...
А НАСАМРЭЧ ЯЕ НІКОЛІ НЕ ІСНАВАЛА.

Я НЕ ПІСАЎ ТОЙ ЛІСТ.
ПОЙДЗЕМ.




its about letting go...


its about letting go...


LERIE PAG
ROSE FOR


ВАЛЕРЫ НАПІСАЛА ГЭТЫ ЛІСТ, КАЛІ БЫЛА ЖЫВАЯ.
Я ДАСТАВІЎ ЯГО ТАК, ЯК ЯГО ДАСТАВІЛІ МНЕ. СЛОВЫ, З-ЗА ЯКІХ ТЫ ПЛАКАЛА, ПРЫМУСІЛІ ПЛАКАЦЬ І МЯНЕ КАЛІСЬЦІ. ЯНЫ ЗМЯНІЛІ МЯНЕ.


V... ЯНА ПРЫГОЖАЯ!
ХТО ЯНА?


ЖАНЧЫНА З НУМАРА 4.


СКЛЯПОК "КІЦІ-КЭТ".
4
РОЗІ?
РОЗІ?
ЭЙ, МЫ ПАЧЫНАЕМ!!!


ТАК...
ТАК, ДОБРА.
ЗАРАЗ ІДУ.


БОЖА!


РОЗІ?
ДЗЯЎЧЫНАЧКА, МАРЦІНЭТЕ ЎЖО ПАЧЫНАЕЦЦА.


ОЙ, ПРАБАЧЦЕ... Я КРЫХУ НЯРВУЮСЯ... МНЕ КРЫХУ ДРЭННА.
ААА...
НУ МЫ НЕ БУДЗЕМ ГНАЦЬ ЦЯБЕ СЦЭНУ, КАЛІ ТАБЕ ДРЭННА, ТАК? ЯНЫ І ЎПЯЦЁХ СТАНЦУЮЦЬ.


А ТЫ ПАСЯДЗІ ТУТ, ПАКУЛЬ НЕ СТАНЕ ЛЯГЧЭЙ.


Я ТАКСАМА БУДУ ТУТ, РАЗАМ З ТАБОЙ.
ДАМЫ – НА ПАМЫЙКУ МАРЫ,
Ў МЕТАДЗІЧКАХ ГЛЯДЗІМ ПОЗЫ –
ВЫШЭЙ НОГІ, ХАВАЙЦЕ СЛЁЗЫ
У НАШЫМ АДВЕЧНЫМ КАБАРЭ!


ГАЛЕРЭЯ ЦЕНЯЎ.
РУЖЫ.


У ТЫМ ЛІСЦЕ ВАЛЕРЫ СПАДЗЯВАЛАСЯ, ШТО РУЖЫ ЗНОЎ БУДУЦЬ У ЛЮДЗЕЙ. ТЫ ВЫРАСЦІЎ ІХ ДЛЯ ЯЕ?
Я ВЫРАСЦІЎ ІХ У ЯЕ ПАМЯЦЬ.
АЛЕ ЧАС АД ЧАСУ Я ДАЮ ІХ ІНШЫМ...


ІВІ... КАЛІСЬЦІ ТЫ КАЗАЛА, ШТО НЕ БУДЗЕШ ЗАБІВАЦЬ ДЗЕЛЯ МЯНЕ.
КАЛІ Я СХАПІЎ ЦЯБЕ НА ВУЛІЦЫ, ТЫ БЫЛА ГАТОВА ЗАБІЦЬ ЧАЛАВЕКА.
НЕЙКАГА АЛІСТЭРА ХАРПЕРА.


ЁН ЗАБІЎ ТВАЙГО ПАЛЮБОЎНІКА. ТЫ ЖАДАЛА АДПОМСЦІЦЬ.
ТУТ ЁСЦЬ РУЖА І ДЛЯ ЯГО. САРВІ ЯЕ І ДАЙ МНЕ.
ВОСЬ І УСЁ?


САРВАЦЬ КВЕТКУ ЛЁГКА.
ГЭТА ПРОСТА. І НЕЗВАРОТНА.
ЗРАЗУМЕЙ, ШТО ТАБЕ ПРАПАНУЮЦЬ, І ЗРАБІ ЯК ПАЖАДЕШ.





НЯХАЙ РАСЦЕ.

ГАЛАВА:


LOVE YO
OU
I LOVE YOU

АА!


ЛІДЭР?


ВЫ НАС КЛІКАЛІ?
ЦІ ЎСЁ ДОБРА?


Я НЕ КЛІКАЎ.
Я КАШЛЯЎ.
ВЯРТАЙЦЕСЯ ДА ПРАЦЫ. АНГЛІЯ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ.


У ЦЕМРЫ ХАЛОДНАЙ СВАЁЙ ДУШЫ ПРА ЛАСКУ НАЙМУДРЭЙШАЙ З УСІХ МАШЫН ЁН МАРЫЦЬ, АЛЕ ЁЙ ШТО ПІШЫ, ШТО НЕ ПІШЫ – ЯНА ЎСЕ ПАСЛАННІ СЦЁРЛА.


ГАЛЕРЭЯ ЦЕНЯЎ.
І ШТО БУДЗЕ ДАЛЕЙ?


ДАЛЕЙ?
ФІНАЛ, Я ДУМАЮ.
ДАЛЕЙ БУДЗЕ ФІНАЛ.


Я СПАТРЭБ-ЛЮСЯ?


ТАК. ТЫ СПАТРЭБІШСЯ... ТОЛЬКІ НАПРЫКАНЦЫ. А КАНЕЦ НАСТУПІЦЬ ХУТЧЭЙ, ЧЫМ ТЫ ДУМАЕШ.
ТЫ ПАВІННА ПРЫГАТАВАЦЦА...


ДА ЧАГО?


ДАВЕДАЕШСЯ, КАЛІ
ПРЫЙДЗЕ ЧАС.


А
ТЫ?
Я?


РУЖЫ.
Я ЖАДАЮ ДАЦЬ
СВЕТУ ТОЕ, ШТО
ЖАДАЛА ДАЦЬ
ВАЛЕРЫ.
ШМАТ
РУЖ.


ПАТАНЧЫМ?




У ВАЧАХ СУФЛЁРА НЯМЫ ЖАХ –
ЁН НЕ ЧУЕ РЭПЛІК СКРОЗЬ
СЭРЦА ГРУКАТ.


ВАКОЛ ПЕКЛА ПАЎСТАЎ
ПАВАРОТНЫ КРУГ, З
ДЭКАРАЦЫЙ АБЛЕЗЛА
ФАРБА.


АКЦЁРЫ НЕ
ВЕДАЮЦЬ,
ЦІ ЗГАСНЕ СВЯТЛО,
ЦІ АПУСЦІЦЦА
ЗАСЛОНА ЦІ НЕ,
ЯНЫ ЧАКАЮЦЬ
АДКАЗУ,
АЛЕ ІМ У АДКАЗ...


... ТОЛЬКІ ПАСМІХАЕЦЦА
МАСКА.



БРЫТАНІЯ, 1998 ГОД. ЖОРНЫ ПРАВАСУДДЗЯ КРУЦЯЦЦА МАРУДНА І ПЕРАМОЛВАЮЦЬ ДРОБНА...

АПОШНІ ШАНЕЦ, РАЙАН. Я ДАЮ ТАБЕ АПОШНІ ШАНЕЦ РАСПАВЕСЦІ ЎСЁ, ШТО ТАБЕ ВЯДОМА НАКОНТ ГЭТАЙ СПРАВЫ З V.

І КАБ БЕЗ УСЯЛЯКАГА ТРЫЗНЕННЯ!

УРЭШЦЕ, ПАЛІЦЭЙСКАЙ ДЗЯРЖАВАЙ КРАІНУ НІЗАВОШТА НЕ НАЗАВУЦЬ.

Я НІЧОГА НЕ ВЕДАЮ... КАЛІ ЛАСКА... Я ЎЖО КАЗАЎ ВАМ, АЛЕ ВЫ НЕ ЖАДАЕЦЕ СЛУХАЦЬ...

САМ СЛУХАЙ, ЕЛУПЕНЬ. МНЕ ЎЖО АБРЫДЛА. ВАР'ЯТ-ДЫСІДЭНТ БЕГАЕ НА ВОЛІ...

АД ГЭТАГА Ў ДЗЯРЖАВЫ ЎЖО БОЛЕЙ ПРАБЛЕМ ЧЫМ АД ПЕРШАЙ, ДРУГОЙ І ТРЭЦЦЯЙ ВОЙН, РАЗАМ УЗЯТЫХ. І ЁН НЕ МОЖА ГЭТА РАБІЦЬ АДЗІН, ЗРАЗУМЕЛА?

ХТОСЬЦІ ПАВІНЕН ЯМУ ДАПАМАГАЦЬ. СУПРАЦЬ ГЭТАГА НЕ ПАПРЭШ. ТЫ КАЖАШ, ШТО НІЧАГУТКІ ПРА ГЭТА НЕ ВЕДАЕШ. А Я КАЖУ, ШТО ГЭТА – ХЛУСНЯ.

ДОБРА, РАЙАН. У ЦЯБЕ БЫЎ ШАНЕЦ. ДУМАЮ, ТАБЕ ТРЭБА ПРАГУЛЯЦЦА ВАКОЛ ДОМУ.

АКНО ПЕРАД ТАБОЙ. НАПЕРАД!

АКНО?! АЛЕ ЯК...

БОЖУХНА... ВЫ Ж НЕ СУР'ЕЗНА...

Я НЕ ЧУЎ, КАБ ХТОСЬЦІ СМЯЯЎСЯ. А ТЫ ЧУЎ?


ВЫЛАЖАЙ, РАЙАН. АДЗІН РАЗ НАВОКАЛ БУДЫНКУ. МАЖЛІВА СВЕЖАЕ ПАВЕТРА ПАЛЕПШЫЦЬ ТВАЮ ПАМЯЦЬ.


БОЖА!
ВЫ НЕ МАЕЦЕ ПРАВА! Я БУДУ СКАРДЗІЦЦА...
ТАК-ТАК... КАЛІ ВЕРНЕШСЯ, АДРАЗУ КНІГУ СКАРГАЎ ДАМО.


ТАК, РАЙАН, ЧАГО Ж ТЫ ТРАСЁШСЯ ЯК ЛІСТ?
ГЭТА ВЕЛЬМІ ПРОСТА! ВЫСТУП ШЫРЫНЁЙ ПАЎМЕТРА. НА ЗЯМЛІ ТЫ Б НАВАТ НЕ ЗМОРШЧЫЎСЯ. НАПЕРАД.


АЛЕ ВЫСТУП БЫЎ НЕ НА ЗЯМЛІ. ЁН НА ПЯТНАЦЦАТЫМ ПАВЕРСЕ, І ЗАШЧАПКА АКНА ГУЧЫЦЬ НІБЫТА ГРУКАТ ЖАЛЕЗА, ЯКІ АБРЫВАЕ ЯГО ЖЫЦЦЁ...
VЫШЫНЯ


ПАВЕДАМЛЮ ПРЫБІРАЛЬНІКАМ, КАБ РАНКАМ ПРАЙШЛІСЯ З МЯШКОМ ВАКОЛ БУДЫНКУ. ЯШЧЭ АДНА СПРАВА ПЕРАСТАНЕ БЫЦЬ ПРАБЛЕМАЙ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ У ШЭРАМ.
ТАК? ТЫ ДУМАЕШ, ГЭТЫ РАЙАН БЫЎ НЕЯК ЗВЯЗАНЫ З V?


БОЖУХНА, ДЖОН, ВЯДОМА НЕ! ПРОСТА ЯШЧЭ АДЗІН ДУРАНЬ, ЯКІ ЗАНАДТА ШМАТ БАЛБОЧА ТАМ, ДЗЕ ГЭТА НЕ ТРЭБА РАБІЦЬ.
БЫЎ ВЕЛЬМІ СКЛАДАНЫ ТЫДЗЕНЬ. З КЭРАЛ І ДЗЕЦЬМІ... ЯНА МЯНЕ ЗАМАРДАВАЛА. ТРЭБА БЫЛО НЕЯК РАЗРАДЗІЦЦА.
СЛУХАЙ. НЕ ТРЭБА. У НАС НА ЯГО НІЧОГА НЯМА...


ЗРЭШТЫ ХТО БУДЗЕ ХВАЛЯВАЦЦА З-ЗА ГЭТАГА РАЙАНА?




ВЫСТУП ШЫРЫНЁЙ ПАЎМЕТРА! НА ЗЯМЛІ ЁН НАВАТ НЕ ПАМОРШЧЫЎСЯ. НЯМА НІЯКАЙ РАЗНІЦЫ. НІЯКАЙ.
НУ, МОЖА ЗУСІМ НЕВЯЛІКАЯ...

ВОСЬ ГЭТА ПАКУТЛІВАЕ ПАКОЛВАННЕ Ў ПЯТКАХ... НА ЗЯМЛІ ТЫ ГЭТАГА НЕ АДЧУВАЕШ.

І ГЭТЫ ДЗІЎНЫ ШЭПТ, БЫЦЦАМ РЭХАМ ГУЧЫЦЬ У ГАЛАВЕ: "ЯК ГЭТА БУДЗЕ, КАЛІ Я ЗВАЛЮСЯ? ЦІ НЕ ЗГУБЛЮ ПРЫТОМНАСЦЬ? ЦІ БУДЗЕ БАЛЮЧА?"
НА ЗЯМЛІ ТАКОГА НІКОЛІ З ВАМІ НЕ АДБУДЗЕЦЦА.

І ВЯДОМА ВЕЦЕР, ЯКІ ДЗЬМЕ ВАКОЛ ГЭТЫХ ВЕЛІЗАРНЫХ СКРЫНАК...
О БОЖА! БОЖУХНА!
ТАКІЯ РЭЧЫ НІКОЛІ НЕ ЗДАРАЮЦЦА...

ЯШЧЭ НЕ ПОЗНА.
А-А-А-А-А-А-А-А-А-А-А-А-А-А!


ПРЫЕМНЫ ВЕЧАР.
ЁН СТРАЧВАЕ ПРЫТОМНАСЦЬ, РУКА Ў ЧОРНАЙ ПАЛЬЧАТЦЫ ВЫЦЯГВАЕ ЯГО НА БЯСПЕЧНЫ ДАХ, А ЁН НІЧОГА НЕ АДЧУВАЕ.

ТЫМ ЧАСАМ:

ЯГО НЯМА ЎЖО 10 ХВІЛІН. ШТО ДУМАЕШ, КОЛІН?

ДУМАЮ, ШТО ЯГО САДЗЬМУЛА ЯШЧЭ НА ПЕРШЫМ ЗВАРОЦЕ. ПАЙДУ ПАГЛЯДЖУ...

НЕ, НЕ БАЧНА. НАПЭЎНА ВЫРАШЫЎ ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У ЧЭМПІЯНАЦЕ ПА ПАЛЁТАХ У ВОЛЬНЫМ СТЫЛІ.

ДОБРА, ТРЭБА ІСЦІ. У МЯНЕ БЫЎ ЦЯЖКІ ДЗЕНЬ, І КАЛІ ЯНА ЗНОЎ ПАЧНЕ ВЯРЗЦІ АБЫ-ШТО, Я НЕ СТРЫМАЮСЯ.

А МАЖЛІВА, КАЛІ ПАДУМАЦЬ, ЗОЙДЗЕМ У АФІЦЭРСКУЮ СТАЛОЎКУ І ЗГУЛЯЕМ ЯШЧЭ ПАРТЫЮ, ДЖОН?

ДЖОН? ТЫ ЗАРАЗ НІЧОГА НЕ ЧУЎ? ДЖОН...

ГРУКАТА...

БОЖА!

ГЭТА ВЫ, ТАК? ВЫ - ГЭТА ЁН. ХАЛЕРА...

СЛУХАЙЦЕ, Я ШТОСЬЦІ ПРА ВАС ЧУЎ. ВЫ ПАЛЮЕЦЕ НА ПАРТЫЙЦАЎ. А Я ЗВЫЧАЙНЫ ПАЛІЦЭЙСКІ.

САПРАЎДЫ?

НЕ, ВЫ Ж НЕ ЖАДАЕЦЕ, КАБ Я...

У СЛУЖБОЎЦАЎ, ЯКІЯ ПРАЦУЮЦЬ У ПАЛЬЦЫ, ЁСЦЬ ІМЯ ДЛЯ ГЭТАГА ЧАЛАВЕКА. ЯНЫ ЗАВУЦЬ ЯГО V. ЁН БЕЗ ПАПЯРЭДЖАННЯ АТАКУЕ, ЗАБІВАЕ БЕЗ ЖАЛЮ, ЁН НЯСЕ ТОЛЬКІ СМЕРЦЬ.

УЯВІЦЕ, ШТО ВЫ ВЫБІРАЕЦЕ ПАМІЖ СМЕРЦЮ АД РУКІ Ў ЧОРНАЙ ПАЛЬЧАТКЕ І МАЛЕНЬКІМ ШАНЦАМ НА РАТАВАННЕ. ШТО ВЫБІРАЕЦЕ?

ДОБРА.

ДОБРА.

ПРАЗ НЕКАЛЬКІ СЕКУНД ЧАЛАВЕК, ЯКІ НІКОЛІ НЕ ПЕРАСТАЕ УСМІХАЦЦА, ЦІХА ЗАЧЫНЯЕ АКНО. ЁН НЕ ЛЮБІЦЬ НЯСКОНЧАНЫЯ СПРАВЫ.

ЗРАЗУМЕЛА, ШТО НЯСКОНЧАНЫЯ СПРАВЫ УНУТРЫ...

У ПАРАЎНАННІ З ТЫМІ, ШТО ЗНАДВОРКУ...

ІНСПЕКТАР КОЛІН КЛАРК ПРАЦУЕ Ў ПАЛЬЦЫ З ЧАСОЎ ЯГО ЗАСНАВАННЯ Ў 1992-М. УЖО ШЭСЦЬ ГАДОЎ. ДА ТАГО ЁН БЫЎ САЛДАТАМ.

НА ТРЭНІРОЎКАХ БЫЛО І ГОРШ. ЗНАЧНА ГОРШ. ЁН ЗМОЖА. ЁН ВЕДАЕ, ШТО ЗМОЖА.

ЗРЭШТЫ РЭШТ, ПАЎМЕТРА ДАСТАТКОВА. НА ЗЯМЛІ ЁН НАВАТ НЕ ПАМОРШЧЫЎСЯ.

ЁН РОБІЦЬ КРОК. І ЯШЧЭ АДЗІН КРОК. ЯШЧЭ І ЯШЧЭ.

ЧАЛАВЕК. ВЫСТУП. МАРКОТНАЕ ВЫЦЦЁ ВЕТРА. АБЫЯКАВЫ БЛЯСК ДАЛЁКІХ ЗОРАК.

ГЭТА ПРОСТА ФАРС. ЁН РОБІЦЬ КРОК...

ФАРС.ТАКІЯ РЭЧЫ НІКОЛІ НЕ ЗДАРАЮЦЦА...

КАЛІ ЯШЧЭ НЕ ЗАНАДТА ПОЗНА.



